Wilno, ul. Sierakowskiego 21-6
Red. „Przegląd Wileński"

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 25 гр.

№ 6 (8) Вільня, 10 Верасьня 1934 г. Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Соцыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы.

## АПОШНІЯ ПАДЗЕІ У НЯМЕЧЧЫНЕ

Нацыянал-соцыялістычная Нямеччына апынулася ў цэнтры ўвагі ўсяго сьвету. Адтаго ў якім кірунку пойдуць разьвіваючыяся там падзеі і да чаго давядуць — залежыць лёс усей Эўропы.

Дапусьцім на хваліну, што там улада нацыянал-соцыялістаў пала. Хто мог-бы прыйсьці на яе мейсца?

Толькі камуністы—і больш ніхто.

Усякія надзеі на магчымасьць ўстабілізаваньня там нейкага дэмакратычна-парлямэнтарнага ладу безўмоўна завядуць. У выпадку запанаваньня ў Нямеччыне камуністычнага рэжыму апошні ў вельмі хуткім часе перакінуўся-б на цэлы рад іншых дзяржаў.

Дый, наагул, наяўнасьць на Эўрапейскім кантынэнце аж двух вякікіх дзяржаў, С.С.С.Р. і Нямеччыны, налічваючых больш 250 мільёнаў жыхароў і кіраваных камуністычнай партыяю, мела б аграмаднае значэньне ў сусьветнай палітыцы і рашуча заважыла-б на лёсах ня толькі аднэй Эўропы...

Так, а не інакш трэба разглядаць значэньне таго, што творыцца ў самым сэрцы эўропы.

Дзеля гэтага ад самага пачатку нацыянал-соцыялістычнай рэвалюцыі наша часопісь позытыўна да яе ўстасўнкавалася, бо мы верым, што толькі нацыянал-соцыялістычная ідэолёгія, каторая распаўсюджваецца цяпер па ўсяму сьвету, вывядзе народы на правідловы шлях гістарычнага разьвіцьця.

Мы не належым да катэгорі людзей, якія спадзяюцца, што „фашыстоўскі" рэжым у Нямеччыне праваліцца, уступіўшы мейсца трыумфальнаму паходу Камінтэрну. Гэтага ніколі ня будзе.

Нацыянал-соцыялістычны рэжым устабілізаваўся ў Нямеччыне вельмі моцна, мацней нават, чымся мы думаем.

Не паваляць яго і тыя контр-рэвалюцыйныя падкопы, якія плянуюцца масонамі, жыдамі і Комінтэрнам і якія прывялі ў чэрвені с. г. да крывавай разьвязкі.

Найлепшым доказам трываласьці яго зьяўляюцца вынікі ўсеагульнага галасаваньня, якое адбылося там 19 жніўня с. г,

З 44.473.635 асоб, якія мелі права голасу прыняло ўдзел у галасаваньні — 43.529.710, з якіх 38.362.760 г. зн. 88½% галасавала за Гітлера, а гэтым самым за нацыянал-соцыялістычны рэжым.

Адбыўшаеся галасаваньне ёсьць залогам ідэолёгічнага аздараўленьня Эўропы, і перабудовы яе на больш справядлівых палітычных і соцыяльна-эканамічных падставах, залогам таго, што Комінтэрн не ператворыць сьвет у турму народаў, якую ён пабудаваў у Саветах.

Канчальная перамога нацыянал-соцыялістычнай ідэалёгіі ў Нямеччыне — гэта ёсьць зваротны этап у грамадзкім і палітычным жыцьці ўсёй людзкасьці. Гісторыя адчыняе новую карту падзеяў і мы, беларусы, як і кожны паняволены народ, ўважна да яе павінны прыглядацца...

С. Б.

# Ідэолёгічня дрыгва

У сучасную эпоху ўсеагульнага крызысу ня толькі эканамічнага, але й грамадзка-палітычнага, людзкая грамада патрабуе „пераацэнкі ўсіх вартасьцяў“ і над тым, чаму раней пакланялася—ставіць цяпер вялілі знак запытаньня.

Страціў свой прываблівы бліск дэмакратызм з ягонымі псэўда-свабодамі і сумліўнай роўнасьцю, ня вытрымаў спробы ў сваім практычным застасаваньні і марксызм, у выніку чаго ідэолёгічную гэгэмонію абыймаюць іншыя кірункі грамадзкай і палітычнай думкі.

Ідэолёгічны крызыс захоплівае і галіну маральную, дзе мы наглядаем пашырэньне сэктанства і розных іншых праяваў шуканьня „праўды і справядлівасьці“ побач з распаўсюджваньнем рэлігійнага нігілізму.

Вельмі цяжка быць прарокам, асабліва ў сучасную хвіліну, і таму нельга адказаць якія формы пры канчальным разрахунку пры-ме грамадзкае жыцьцё навет у бліжэйшую будучыню.

У адным толькі можна быць пэўным, што народы нацыянальна-сьведамыя і добра сарганізаваныя хутчэй перажывуць гэты крызыс і хутчэй упарадкуюць свой грамадзкі, палітычны і рэлігійны лад.

Ужо цяпер мы бачым, як некаторыя народы, пераняўшыся здаровымі кіраўнічымі ідэямі, і адпаведна арганізаваўшыся ўступілі ў новую фазу разьвіцьця, маючы шырокія гістарычныя пэрспэктывы.

Кіраўнічая ідэя, творчая і здольная да зьдзейсьненьня патрэбна кожнай нацыі, бо яна адухаўляе яе жыцьцё і дае сэнс і зьмест гэтаму апошняму. Шмат якія народы ня маюць яшчэ такой ідэі, каторая-б была здольнаю захапіць іх і павясьці за сабою.

Але ўсё прамаўляе за тое, што большасьць цывілізаванай людзкасьці яе знойдзе.

Перамогшы ў гэтакі спосаб ідэолёгічны крызыс, нам ня будзе такім страшным і крызыс эканамічны, які, фактычна, разбурвае ўсе падставы сучаснага грамадзянства і вядзе яго да заняпаду.

На вялікі жаль, да ліку народаў не знайшоўшых яшчэ сваей скрысталізаванай агульнай нацыянальнай ідэі трэба залічаць і беларусоў, сярод якіх наглядаецца запраўдная ідэолёгічная дрыгва. Галоўная прычына гэтаму знаходзіцца ў тых палітычных і эканамічных абставінах, якія ў працягу стагодзьдзяў укладаліся на Беларускіх землях.

Трэба не запамінаць і пра тое варожае этнічнае акружэньне, у якім апынуліся беларусы і якое сьведама і плянова ўстрымлівае наш поступ. Гэтакаму акружэньню залежыць каб мы не ўзмацнялі сваей нацыянальнай сьведамасьці і ня вытварылі агульна-нацыянальнай ідэолёгіі.

Шляхі беларускага адраджэньня, запраўды, вельмі цяжкія і цярністыя і няма нічога дзіўнага, што народ пры гэтакіх абставінах дэмаралізуецца і траціць ня толькі свае нацыянальныя вартасьці, але й агульна-людзкія.

Дзякуючы полёнізацыі з аднаго боку і збальшавізаваньню з другога—ён ператвараецца ў нешта тупое і аслабленае.

Траціць давер да ўсіх і носіць у сваёй душы вялікі запас ненавісьці і злосьці, каторая можа выліцца на вонкі пры першай спрыяючай да таго акалічнасьці.

Адначасна з гэтым пад уплывам розных інтрыгаў і сыстэматычнай прапаганды частка народу адвярнулася ад сваіх прыродных павадыроў, беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, і падпала пад уплывы чужынцаў.

Проці інтэлігенцыі, вернай нацыянальна-беларускім ідэалам, выступаюць супольным фронтам усе ворагі нашага адраджэньня.

Яе топчуць у балота, зьдзекуюцца і стараюцца зьнішчыць фізычна і духова.

Так, на вялікі жаль, абстаяць справы на нашых землях...

А народ усё глыбей падае ў прорву безнадзейнай нэндзы і беспрасьветнай цемры. Цяжкімі абставінамі ён змушаецца да ілжы: крывіць душою, калі запісваецца „ў палякі“, лжэ тады, калі „ахвотна“ пасылае сваё дзіця ў чужацкую школу, лжэ, нарешце, калі кідае „рускую“ веру і пераходзіць у „польскую“.

Народ прывык лгаць навет тады, калі гэта датычыць сьвятая сьвятых душы чалавека.

Справядліва казаў у свой час Бокль адносна гэткага распаўсюджанага ў нас зьявішча:

„Калі людзі змушаны бываюць замаскоўваць свае думкі, то ў іх набываецца прывычка забясьпечваць сябе пры дапамозе абману і купляць бясьпечнасьць цаною ілжы; ілжа для іх робіцца аднэй са штадзённых патрэбаў, а крывеньне душой—адным са звычаяў; агульны дух і стан думак нацыі падлягае сапсуцьцю і сума існуючых у ёй дрэн-

ных прыкметаў і памылкаў страшэнна павялічваецца". (Бокль Історія цивилизации в Англии, стар. 74 выд. 1896 г.)

Вось гэта ўсё, аб чым кажа нам ангельскі гісторык і філёзоф, даецца поўнасьцю заўважыць сярод Беларускага народу, каторы ў ілжы змушаны бачыць адзіны сродак да фізычнага самазахаваньня.

Няма чаго ўкрываць, а трэба адкрыта прызнацца, што й сума грамадзкіх недахопаў сярод нашага народу страшэнна павялічылася, што ў сваю чаргу пагражае яму вялікімі і прыкрымі насьледкамі.

„Дрыгва" можа зацягнуць яго ў прорву чыста зоолёгічнага існаваньня, без сэнсу і зьместу, ператварыўшы ў звычайную жывёлу, каторая існуе на сьвеце толькі для таго, каб карміць сваіх гаспадароў.

Гэтаму ўсяму мусіць, нарэшце, наступіць канец, калі мы ня хочам закончыць сваё нацыянальнае жыцьцё самагубствам.

Беларускае грамадзянства павінна пераняцца нейкаю грамадзкаю ідэолёгіяю, такою ідэолёгіяю, каторая давала-б яму выразныя нацыянальныя і соцыяльныя пэрспэктывы і з ёю ісьці ў народныя гушчы.

Такою ідэолёгіяю зьяўляецца нацыянальны соцыялізм, каторы стаўшы вераю Беларускага народу, адродзіць яго нацыянальна, маральна і палітычна.

Гэтая вера дасьць нашаму народу надзею на вызваленьне, узмоцніць ягоныя духовыя сілы ў змаганьні за лепшую долю і разбудзіць нацыянальны гонар.

Тым самым наш народ здабудзе элемэнтарныя грамадзкія здольнасьці, так патрэбныя яму ў сучасную пераламовую хвіліну, калі пачынае развальвацца стары сьвет, ачышчаючы мейсца для новага...

**Ф. Акінчыц**

# Коопэрацыя—шлях да адраджэньня

Культурна - нацыянальны і палітычны заняпад Беларускага народу тлумачыцца многімі прычынамі, сярод каторых галоўнае мейсца займаюць прычыны эканамічныя. На працягу вякоў ён жорстка эксплёатуецца польскімі абшарнікамі і жыдоўскім гандлёва-ліхвярскім капіталам, апутаўшым густою павуцінаю ўвесь край, у выніку чаго на нашых землях не вытварыліся тыя абставіны, пры каторых разьвіваліся іншыя народы, здабыўшыя сабе незалежную дзяржаўнасьць.

Не ўдаючыся на гэтым мейсцы ў гістарычную аналізу ўсіх складных прычынаў, якія давялі наш народ да сучаснага сумнага стану, карысней будзе затрымацца на тым, якім спосабам і пры якіх умовах ён можа ўвайсьці ў сямью нацыянальна сьведамых і арганізаваных народаў.

Разглядаючы парушанае пытаньне нам трэба, перадусім, зьвярнуць увагу на выняткова эканамічны стан трохмільённай масы беларусоў над Польшчаю, масы складаючайся выключна з сялян.

З гэтага сялянства, прыдушанага палітычна і агалелага дашчэнту, да сёньняшняга дня высмоктывае сокі ня толькі сэквэстратар але яшчэ ў большай ступені гандлёвы і ліхвярскі капітал.

Нічым ня ўстрыманая эксплёатацыя беларускай вёскі вядзе да страшэннага паніжэньня матэрыяльнага роўню ўсяе сялянскай масы, а тым самым і ўсяго Беларускага народу.

У жорсткай і няроўнай барацьбе за фізычнае існаваньне адступаюць на задні плян усе справы, якія ня зьвязаны беспасярэдна са штодзенным кавалкам хлеба і таму няма нічога дзіўнага, што значная частка беларусоў пачынае траціць ня толькі сваё нацыянальнае аблічча, але наагул усё людзкае, што, на жаль, усё часьцей даецца наглядаць на нашых вёсках.

„Мне страшна глядзець на мужыкоў"— з сумам прызнаецца А. Чэхов: „Я ня ведаю для якіх такіх вышэйшых мэтаў яны мучацца і пашто яны жывуць. Калі жыцьцё ёсьць пацеха, то яны непатрэбныя, лішнія людзі; калі-ж мэта і сэнс жыцьця—у нэндзы і беспрасьветнай, безнадзейнай цемры, то мне незразумела, каму і пашто патрэбна гэтакая інквізыцыя." (А. Чэхов. „Страх"). Калі яшчэ А. Чэхову, жыўшаму ў эпоху царскага самаўладзтва было незразумела „каму і пашто" патрэбна гэтакая інквізыцыя, то мы, беларусы, пазнаўшы „дэмакратычныя" умовы жыцьця гэтакага сумліву ўжо ня маем...

Само жыцьцё яскрава даводзіць і зусім выразна кажа—каму яна патрэбна і таму мы пераканааны, што пры існуючых соцыяльна-эканамічных і палітычных абставінах ня можа быць мовы пра паляпшэньне лёсу Беларускага народу.

Надзеі на гэта ў найлепшым выпадку зьяўляюцца звычайным самаашуканствам. Працоўныя беларускія масы разам са сваёю нацыянальна-сьведамаю інтэлігенцыяю засуджаны на маральнае і фізычнае зьнішчэньне. Яны ператвараюцца ў „гной", на якім жыруюць паразітныя расьліны і гэтым толькі можна вытлумачыць тое, што было для некаторых незразумелым.

Запраўды, паўстае сур'ёзнае пытаньне— што-ж рабіць пры гэтакіх цяжкіх абставінах, каб аблягчыць сваё палажэньне і захаваць нацыянальнае аблічча Беларускіх народных масаў.

Хаця мы й пераканаены, што гістарычныя падзеі разьвіваюцца ў карысным для нас кірунку, што яны прывядуць да нацыяналь-

нага і социяльнага вызваленьня Беларускага народу, аднак, ніхто ня можа дакладна нам сказаць — як доўга будзе існаваць сучасны палітычны і социяльна - эканамічны лад з усімі яго недарэчнасьцямі і крыўдамі.

Усё прамаўляе за тое, што трэба цяпер-жа, ня трацючы часу, шукаць шляхоў да аслабленьня эксплёатацыі нашага народу і старацца ўзмоцніць ягоную нацыянальную і агульна-грамадзкую сьведамасьць.

Гэтага ўсяго, як паказала дасьведчаньне культурных народаў, можна асягнуць, між іншым, пры дапамозе коопэрацыі.

Толькі разбудаваўшы густую коопэратыўную сетку, мы паступова будзем звальняцца ад эксплёатацыі гандлёвага і ліхвярскага капіталу.

Разгарнуўшы шырокую коопэратыўную працу мы ўзмоцнімся арганізацыйна а заразам і эканамічна.

У будучыні коопэрацыя як мэтад рэканструкцыі сельскай гаспадаркі адгуляе найгалоўнейшую ролю ў жыцьці нашага сялянства.

Але ня меншую ролю яна павінна выканаць і цяпер, уцягваючы беларускія народныя масы ў барацьбу з рознымі праявамі эксплёатацыі і прычыняючыся да стварэньня беларуса-грамадзяніна ў поўным значэньні гэтага слова.

Толькі пры гэтакіх умовах можа ўзмацніцца нацыянальная сьведамасьць нашага народу адначасна з узмацненьнем нацыянальнай салідарнасьці.

Разбудову беларускай грамадзкасьці можна і трэба праравляць на грунце коопэрацыі, як адзінай арганізацыйнай формы, даступнай і зразумелай для сялянства.

Пад справу адраджэньня Беларускага народу трэба падлажыць эканамічны фундамэнт, трэба арганізаваць народ на грунце штодзеннай барацьбы з эксплёатацыяю і толькі тады нацыянальныя ідэалы зоймуць адпаведнае мейсца ў ягонай псыхіцы.

**Д. Пінчук**

---

# Што трэба памятаць пры тварэньні беларускіх арганізацыяў

У даным выпадку нас цікавяць не палітычныя партыі, куды ўваходзяць людзі адборныя, з пэўнымі перакананьнямі і пэўным грамадзкім стажам, а культурна-асьветныя, гаспадарчыя і г. п. арганізацыі.

Звычайна, сябры ў гэтыя апошнія прымаюцца без разбору, абы толькі набраць вялікшую іх колькасьць, мала лічучыся з тым, якая маральная і грамадзкая вартасьць тае, або іншае асобы.

Як паказвае дасьведчаньне, арганізацыі з гэтакім, выпадкова падабраным сяброўскім складам ня толькі не выконваюць сваіх заданьняў, а ў шмат якіх выпадках прыносяць шкоду беларускай справе.

Трэба лічыцца з тым што статуты ўсіх нашых арганізацыяў пабудаваны на ультрадэмакратычных падставах, у выніку чаго сябра арганізацыі, які нічога ў ёй ня робіць, або які пралез туды выключна ў шкодніцкіх мэтах, карыстаецца з такіх самых правоў, як і сябра адданы беларускай справе і сумленна працуючы на яе карысьць.

Практыка паказала, што правакатарскія элемэнты, сабраўшыся ў адпаведнай колькасьці, арганізуюцца ў нутры самой арганізацыі і карыстаючыся са статутовага дэмакратызму, праводзяць у ёй шкодніцкую працу, ўплянаваную недзе ў варажым да нас серадовішчы.

Арганізацыі ў такіх выпадках або разбураюцца зусім, або дзеяльнасьць іх прымае непажаданы кірунак.

Беларускаму нацыянальнаму дзеячу трэба памятаць, што на яго з усіх бакоў — „вострацъ зубы" і што пры першай да таго магчымасьці арганізацыя, у якой ён працуе, можа быць узарвана, а сам ён апыніцца ў такім становішчы, калі ня ў сілах будзе направіць яе нармальную дзеяльнасьць.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу і цэлы рад іншых меркаваньняў, на каторых ня будзем тут затрымлівацца, трэба памятаць і праводзіць у жыцьцё наступнае.

Перадусім, калі закладаецца некая новая арганізацыя, то закладчыкі яе павінны мець аднолькавыя социяльна - палітычныя і грамадзкія перакананьні, бо толькі тады праца іх пойдзе гладка і бяз нутраных непаразуменьняў. Яны павінны быць прыблізна на аднолькавай ступені ўмысловага разьвіцьця. Новых людзей трэба прымаць у арганізацыю вельмі асьцярожна і пры гэтым толькі такіх, каторыя падзяляюць ідэолёгію закладчыкаў.

Неабходна паставіць справу так, каб запраўдных сяброў у арганізацыі была мінімальная колькасьць; рэшту-ж грамадзянства гуртаваць каля арганізацыі на становішчы кандыдатаў, або спачуваючых, якія мелі-б права карыстаньня з дзеяльнасьці арганізацыі, але ня мелі-б у ёй праваў што да наданьня кірунку і характару яе дзеяльнасьці.

Гэтыя правілы трэба стасаваць абавязкава, бо прадукцыйнасьць працы арганізацыі залежыць не ад колькасьці, а ад грамадзкай і этычнай якасьці яе сяброў.

Часы неабмежаванага дэмакратызму мінулі ня толькі ў дзяржаўным жыцьці, але яны павінны мінуць і ў будаўніцтве арганізацыяй, асабліва ў нас на Беларусі, дзе ты „завадовага" конфідэнта, або камуніста-правакатара спатыкаецца на кожным кроку.

З другога боку, прысутнасьць у арганізацыі сяброў з умысловым роўнем, прыбліжаючымся да ідыётычнага, ня толькі нічога

карыснага для арганізацыі не дае, а наадварот, устрымлівае яе працу.

У тых выпадках, калі прыходзіцца ўступаць у сябры ўжо існуючай беларускай арганізацыі, то нам, нацыянал-соцыялістам, трэба застасаваць тактыку камуністаў: старацца падпарадкаваць арганізацыю сваім ідэолёгічным уплывам, а потым захапіць у ёй кіраўніцтва ў свае рукі. Мова тут можа быць толькі пра арганізацыі апанаваныя камуністамі і іншымі варожымі да нас сіламі, адносна каторых умела праведзеная тактыка можа выціснуць іх з арганізацыі.

Вось гэта ўсё не пашкодзіць памятаць кожнаму беларускаму нацыянал-соцыялісту і праводзіць у жыцьцё сьмела і рашуча, не аглядаючыся назад і не зьвяртаючы ўвагі на дэмакратычныя забабоны.

Гісторыю твораць ня цёмныя і ў многіх выпадках здэмаралізаваныя масы, а добра саргнізаваныя ідэёвыя адзінкі, каторыя вытварыўшы з зябе сілу, цягнуць за сабою гэтыя масы і кіруюць імі.

Так было раней і так будзе калі не заўсёды, то яшчэ вельмі доўга ў жыцьці кожнай людзкой грамады...

Ф. А.

# Трымаймася горда

Як сіла варожа
На нас пачне зьвягу
І путы наложа
На нашу адвагу,
І сьцісьне нас крыўдай
Балюча і цьвёрда —
Трымаймася горда.

Калі вораг рукі
Нам сьцісьне ў кайданы
І кату на мукі
Мы будзем адданы;
Захоча зламаць нас
Усіх злыдняў орда —
Трымаймася горда.

Калі сьмерць загляне
Нам страхам у вочы
І клікаць нас стане
Да вечнае ночы;
Калі капцюрамі
Усьцісьне нас цьвёрда —
Трымаймася горда.

Казлоўшчык

# НАШЫЯ АДНОСІНЫ ДА ЖЫДОЎ

Нашыя адносіны да ролі жыдоў у грамадзкім жыцьці Беларусі акрэсьляюцца некаторымі як „гадкі антысэмітызм," з якім трэба змагацца амаль не ў імя ўсеагульнага дабра і справядлівасьці. Сярод беларускага грамадзянства ўстанавіўся некі дзіўны звычай замоўчваць пра гэтую справу, або выказваць толькі тое, што ідзе на карысьць жыдом,—усякі-ж голас рэчовай крытыкі залічваецца да праяваў чорнай рэакцыі і грамадзкага вандалізму.

Гэтакая акалічнасьць накладае на нас абавязак высьвятліць свой пагляд у жыдоўскай справе і пастарацца пераканаць тых, хто будучы засьлепленым інтэрнацыянальнымі догмамі, ня здольны бачыць сьвет у ягоным запраўдным выглядзе.

Мы не залічаем сябе да катэгорыі людзей, каторыя ненавідзяць жыдоў толькі таму, што яны жыды, або таму, што яны маюць інакшыя звычаі і рэлігію.

Кожны народ мае права на існаваньне і ніхто ня можа забараніць яму жыць унутры сваёй нацыянальнай грамады так, як яму падабаецца. Але мы ня можам пагадзіцца з тым, каб некі народ — ці то будуць жыды, ці кітайцы — пасяліўшыся сярод нас, тварыў з сябе моцна скансалідаваную грамаду, дзеючую проці нашых нацыянальных, эканамічных і грамадзкіх інтэрэсаў.

Жыды, каторыя цікавяць нас у даным выпадку, дзякуючы сваёй моцнай нацыянальнай скансалідаванасьці жывуць сярод іншых народаў як быццам асобнымі дзяржавамі, арганізаванымі на тэократычных падставах.

Юдаізм, даўшы жыдом карысныя жыцёвыя пачаткі, моцна сцэмэнтаваў іх ідэолёгічна, дзякуючы чаму яны вытрымалі націскі іншых народаў, загартаваліся да змаганьня за свае правы на жыцьцё і нават, што для нас найгалаўнейшае — зашчапілі ў сябе імпэрыялістычныя імкненьні адносна іншых народаў.

Фактам зьяўляецца тая акалічнасьць, што жыды, залічаючы сябе да абранага Богам народу, моцна вераць у нейкую асобную місію, выпаўшую на іх долю, у выніку чаго яны павінны запанаваць над усім сьветам. У гэтакім перакананьні іх падтрымлівае рэлігія, школы, звычаі і традыцыі.

Само адасабленьне жыдоў ад „гояў", каторае вымагаецца талмудам, мае глыбокія прычыны, палягаючыя на неабходнасьці захаваньня чыстаты жыдоўскай расы, якая толькі ў гэтакім стане здольнаю будзе да сусьветнага панаваньня.

Гэтакіх ярка выражаных расістычных і шовіністычных паглядаў трымаюцца ня толькі старазаконныя жыды, але ўся жыдоўская грамада і нават марксысты.

Эксплёатуючы іншыя народы, сярод каторых жывуць, і сабраўшы ў сваіх руках аграмадныя капіталы, яны адыгрываюць на

сьвеце кіруючыя ролі. Ніхто іншы, а толькі жыды захапілі гандаль і промысел у свае рукі. (Напрыклад, на зах. беларускіх землях 95% гандлёвых прадпрыемстваў—жыдоўскія).

Большая частка эўрапейскай прэсы, за выняткам нямецкай, кіруецца жыдамі, а ў Савецкай Расеі яна ў жыдоўскіх руках на ўсе 100%.

Праз прэсу яны абрабляюць грамадзкую апінію ў выгадным для сябе кірунку, які надаецца галоўным жыдоўскім цэнтрам для ўсіх дзяржаў.

Ня менш колёсальнымі зьяўляюцца іхнія ўплывы на міжнародную палітыку і нутраны лад кожнай паасобнай дзяржавы.

З кожным годам колькасьць жыдоўскай інтэлігенцыі павялічваецца і, напрыклад, у Польшчы дайшло ўжо да таго, што жыды выпіраюць з адвакатуры, мэдыцыны і іншых г. зв. вольных фахаў нават чыстакроўных палякоў.

Наагул, можна прывесьці тысячы фактаў на доказ таго, што „пакрыўджаныя“ жыды захапілі найбольш выгадныя і кіруючыя пляцоўкі ня толькі ў Польшчы, але ў цэлым радзе іншых дзяржаў.

Захапілі ўсё гэта не дзеля таго, што зьяўляюцца найбольш здольным і ўталентаваным народам, а толькі дзякуючы таму, што яны моцна скансалідаваны нацыянальна, сарганізаваны і вытварылі ў сваёй натуры захопніцкія інстынкты і здольнасьці, зручна выкарыстоўваючы „мягкацеласьць“ іншых народаў.

Мала таго.

У мэтах устрыманьня поступу ўсіх іншых народаў на грунце здаровай нацыянальнай ідэолёгіі, каторы пагражае расавым інтэрэсам жыдоў, гэтыя апошнія праз сваіх павадыроў сьведама ўносяць у грамадзкае і палітычнае жыцьцё „гояў“ элементы разбурэньня і няпэўнасьці.

Жыды як раса баяцца запанаваньня на сьвеце нацыялістычнай ідэолёгіі, якая можа агранічыць іхнія правы і таму падтрымліваюць і распаўсюджваюць сярод нас „дэмократызм“, марксызм, сэктантства, і нарэшце камунізм, словам — усё тое, што вядзе да ўсебаковага аслабленьня народаў, да іхняга маральнага і палітычнага заняпаду.

Прапагуючы інтэрнацыянальную ідэолёгію і раскладаючы пры яе дапамозе іншыя народы — у той самы час жыды ва ўсёй сваёй суцэльнасьці зьяўляюцца крайнімі шовіністамі, дзеючымі пастаянна і плянова выключна ў інтэрэсах сваёй расы.

Найлепшым доказам таго зьяўляецца іхняя адпорнасьць на асыміляцыю. Нават у Савецкай Расеі, у краіне дзе павінна была-б запанаваць інтэрнацыянальная ідэя ў яе практычным застасаваньні, мы бачым звычайных жыдоў, якія ня страцілі нічога жыдоўскага. Утварэньне там асобнай жыдоўскай рэспублікі ў Бірбіджане сьведчыць пра тое, што і ў будучыні нельга спадзявацца на этнічнае аб'яднаньне сэмітычнай расы з якою небудзь іншаю.

З асабліваю ненавісьцяй усё сусьветнае жыдоўства адносіцца да маладога нацыянал-соцыялістычнага руху, стараючыся ўстрымаць яго на самым пачатку.

І гэта зусім зразумела.

Нацыянальны соцыялізм нясе народам нацыянальнае аздараўленьне, будучы тым цэмэнтам, які ўзмоцніць маральна і фізычна паасобныя народы, а гэта зьяўляецца найбольш непажаданым і нявыгадным для таго этнічна-чужога нам сэміцкага цела, якое жыве сярод арыйскіх народаў. У той час як нац. соцыялізм нясе ўсім народам лепшую будучыню—гэты-ж самы рух у канчальным разрахунку давядзе да ліквідацыі жыдоў-

---

UŁ. ZAHORSKI

## Na słužbie u dužejšaha

„Ojcze nasz, któryś jest w niebiesiach“... Niawinnyja słowy. Haworać ab woli Božaj. Ab chlebie štodziennym. Ab darawańni winy.

Malitwa poŭnaja ślosnaj paezyi. Pasiwiełaja ad staraści i kožny dzień nowaja, bo adbiwaje nastroi i patreby tych, što ŭ malitwie šukajuć palohki swajej doli, a ŭ Bohu adkazu na ŭsie nierazwiazanyja pytańni.

Wialiki aŭtar wiedaŭ što stwaryŭ. Wiedali i dužejšyja, jak možna malitwu zaprahčy da swaich metaŭ. Adzieli jaje ŭ swaju wopratku i pryniaśli na Krywickija ziemli.

— Hladziecie—kažuć—jak my prycharošyli malitwu našaj cudoŭnaj sukniaj. Paznajcie jaje ŭ nowaj pryhažejšaj formie. Pakłaniciesia świataści nowaj sukni.

— My jaje ciapier nie razumiejem—adazwaŭsia narod.

Siwabarodyja, dalokakrajnyja mužy z pastyrskimi kijami sabralisia na naradu.

Najstarejšy pramowiŭ:

— Nie razumiejuć—heta lepiej. Čymsia bolš u prostaha narodu zaciemnim razumieńnie jasnyah rečaŭ—tym lahčejšaje budzie našaje ŭładarstwa nad dušami. Kab Krywickaje plemia było pasłuchmianaje i nia trywožyła pašyreńnia našaha panawańnia — trymajma ich u ššaśliwym stanie dziciačaj niawiedy. Chaj nia znajuć swajho praŭdziwaha imia Nie dapuścim da našych tajnicaŭ, bo paznaŭšy ich—škirujuć proci nas.

— Amen—adkazali jamu.

I raźliłasia pa Krywickich ziemlach „misijanerska“ dziejnaść ludziej, što pakornuju ziamlicu zakryli ad świetu čužackimi daŭhapołymi šatami, a dušy i mazolnyja ruki narodu paźwiazywali čužamoŭnymi ražancami.

Nad wucham Krywičanina biazupynna źwinieli tajomnyja zaklaćci, rodžanyja pad nie-

скай экспансыі і прадвяшчае канец іхняй гегемоніі ў эканамічнай, палітычнай і грамадзнай галіне.

На гэтым палягаюць галоўныя процілежнасьці, каторыя ніколі не пагодзяць жыдоўскую расу з нацыянальным і соцыяльным адраджэньнем іншых народаў.

Усе гэтыя зьявішчы, пералічыць каторыя нельга ў газэтным артыкуле, настолькі з нашага пункту гледжаньня ненармальныя, што замоўчваць пра іх было-б вялікім праступленьнем проці сваяго народу.

Іх трэба пастаянна высьвятляць і тлумачыць, узмацняючы ў гэтакі спосаб нацыянальную сьведамасьць свайго, запраўды пакрыўджанага народу. Ад падобнай працы адмовіцца мы ня можам.

Гэта ня значыць, аднак, што тым самым мы прызываем Беларускі народ да выяўленьня дзікіх інстынктаў у адносінах да жыдоў, да фізычнага іх знішчэньня.

З другога боку, недарэчнасьцю было-б спакойнае прыгляданьне да таго, як багацеюць матэрыяльна і духова іншыя народы коштам Беларускага, як гэты апошні ўсё ніжэй апускаецца па грамадзкай драбіне, дзякуючы слабой нацыян—сьведамасьці і арганізаванасьці. Мы ня будзем весьці гутарку пра тое якія трэба застасаваць сродкі ў дзяржаўным маштабе, каб устрымаць найбольш шкадлівыя для беларусоў праявы жыдоўскай экспансыі, бо гэтакае пытаньне для нас, пазбаўленых сваёй дзяржаўнасьці, пакульшто неактуальна. Але тое, што ў нашых сілах, мы рабіць павінны.

Нам трэба для ўратаваньня свайго народу ад навісшай над ім пагрозы зьнішчэньня—нацыянальнае ўсьведамленьне яго, разбудова моцных падстаў грамадзкасьці і, нарэшце, на эканамічным фронце—апанаваньне тых гаспадарчых пляцовак і функцыяў, якія нам належаць па праву і якія знаходзяцца цяпер у чужых для нас руках.

Да гэтага мы будзем імкнуцца ня гледзючы на тое, што на нас будуць гневацца людзі, каторыя, сьцерагучы ўваходы ў палацы і склады жыдоўскіх капіталістаў акрэсьляюць нашу працу як „гадкі антысэмітызм“...

С. Булат.

---

# Пісьмо

## У Рэдакцыю „Новага Шляху“.

Каб заспакоіць нацыянальнае сумленьне паважанага грамадзяніна А. Стэповіча, гэтым паведамляю, што я ўчасьця ў Расейскім зьезьдзе не прыймаў, а толькі быў агалошаным пачэсным госьцям зьезду, як былы сэнатар ад блёку меньшасьцяў, г. ё., як выбраны і ад расейцаў.

С пашанай **Вяч. Багдановіч.**

1934. 6.VIII. Вільня, Фабрычная, 20

**Ад рэдакцыі:** зьмяшчаючы ў свой час пісьмо гр. А. Стэповіча, рэдакцыя лічыла і лічыць, што парушаная ў ім справа абцяжывае ня толькі ягонае асабістае нацыянальнае сумленьне, але і сумленьне ўсяго беларускага нацыянальна думаючага грамадзянства.

З палёгкай на сэрцы прыймаем да ведама заяву гр. В. Багдановіча аб няўдзелу на Расейскім зьездзе, аднак у імя справядлівасьці мусім, на жаль, сьцьвердзіць, што выжэй зьмешчанае пісьмо не адказывае поўнасьцю на пісьмо гр. А. Стэповіча.

Уважаем за ня лішняе тут яшчэ даць да ведама факт, што на паседжаньні С. Р. М. О. (Союз Русских Меньшинственных Организаций) у Варшаве 12.VIII 1934 г., адбыўшымся пад старшынством сябры Б.Бл. Пімонова гр. В. Багдановіч быў праду гледжаны на сакратара Расейскай культурна-прасьветнай камісіі. („Русское Слово“ №195. 1934 г.)

Нам здаецца, што гэтая прапазыцыя С.Р.М.О. надта падобна на правакацыю.

---

bam Italii i pierakładzienyja na mowu zdabyŭcaŭ.

Zwinieli jak jaho chryścili. Jak pačynaŭ i kančaŭ dzień nizkaj „zdrawaśkaŭ“ i „ojčenašaŭ.“

Jak witaŭ swajho bliźniaha.

Jak rabiŭ znak Kryža pierad zasiawańniem paloŭ.

Jak sabiraŭ płady, kab dzialicca z tym, chto na ich nie pracawaŭ.

Jak wioŭ da aŭtara wybranuju dziaŭčynu. Jak kančaŭ swoj ciarnisty šlach z hramničnaj świečkaj u rukach.

Jak zmierzłyja hrudki niaŭdziačnaj ziamli sypalisia na pawieki, pakul nie zahłušyli panura—nazojliwaj čužackaj pieśni. Pieśni, što żywym zabiwaje radaść życcia.

I tak dziesiatkami, sotniami hadoŭ, Liturhičnaja mowa zakamianieła ŭ pacierach, zakonserwawałasia ŭ kadzilnym dymie i niachoča, ŭstupić należnaha miesca żywoj mowie narodu. Kliča na pomač palicyju, školu.

Ale darma: zakonaŭ życcia nie pieramoža. Monotonny šept pacieraŭ doŭha służyŭ pieramożcam, zaspaiwaŭ żywuju, samastojnuju tworčuju dumku. Ziamla pakryłasia kryżami, byccam pieratwaryłasia ŭ adny ahramnistyja mohiłki. Chaŭturnaja pieśnia, pryniesienaja zakapturanymi čužymi manachami razlahajecca jašče i siahońnia, ale hołas jaje pačynaje słabieć, a fałšywyja tony što raz bolš wydzialajucca i drażniać padniawolnych haspadaroŭ našaj ziamlicy.

Prycichaje šept čužackich pacieraŭ i homan nadmahilnaha karkańnia, bo nowyja pakaleńni razumiejuć, jak niepachwalnuju rolu adyhraŭ jon u ichnim harotnym życci.

Wierym, što akančalna zacichnie, zahłušany mahutnym kličam:

— Zbudzisia patomak Krywičoŭ!
Zbudzisia i zmahajsia!

## Шануйма сваю мову

Мова ёсьць адна з галаўнейшых адзнакаў народнасьці. Народ які губляе сваю мову пераважна перастае быць народам.

Пераможца, каторы хоча вынарадавіць пераможаных, перадусім пасягае на іхнюю мову. Дзеля гэтага кожны падняволены народ змагаецца за зваю мову. Змагаўся і змагаецца за сваю мову і наш Беларускі народ, каторага ворагі хацелі і хочуць вынарадавіць пры помачы царквы, касьцёла, школаў і г. п.

Гэтыя ворагі давялі да таго, што мова беларуская зрабілася пагарджанай ня толькі праз ворагаў, ало і праз самых-жа беларусаў.

Наступіла адраджэньне Беларускага народу. Мова ягоная пачынае займаць пачэснае месца, пачынае змагацца за свае правы.

Нажаль, мусім сьцьвердзіць, што ў гэтым змаганьні мы не карыстаемся тымі правамі, якія мы маем у сучасных абставінах. Скажам больш — мы не шануем сваей мовы. Возьмем Вільня — цэнтр бел. жыцьця ў Зах. Беларусі, места, дзе пражывае шмат беларускіх дзеячоў, і што-ж?...

Цяжка і сумна, але трэба казаць праўду. Тутэйшыя „дзеячы“ у розных польскіх установах, а нават..· у жыдоўскіх крамах і г. п.— паслугоўваюцца чужой мовай.

Ды яшчэ горш... можам назваць некатарых „дзеячоў“ якія ў сваей сямьі не гавораць пабеларуску.

Ганьба і стыд!

Як такі „дзеяч“ можа вымагаць ад селаніна, каб ён не чураўся сваей мовы?

Нашую мову дасканальна разумеюць усе тутэйшыя ўрадоўцы і ўсе грамадзяне Вільні, дык кожны беларус павінен тут ею карыстацца.

Мы ў будучыні не пахістаемся выяўляць прозьвішчы „дзеячоў“ не гаворачых у сямьі пабеларуску і кляйміць іх перад грамадзкай апініяй.

---

## ČARTĄPAŁOCHAWYJA KWIETKI

Ludzi majuć rożnyja słabaści. Adzin chwalicca tym, što jamu zuboŭ užo mała astałosia, inšy, što zachwareŭ na niejkuju „intelihientnuju“ chwarobu. A najčaściejšaja słabaść dyk łhać. Adzin łže, bo musić, druhi, kab być cikawym, treci tak sabie dla sportu. Ale kab pochwalicca što nałhaŭ, dyk nie. Ciapier najšoŭsia i taki.

U apawiadańni „Nowy Jerusalim“ (Rodny Kraj Nr. 19) niechta „Padarożny“ piša: „Zdaloku my, sakolik—kaža adna ciotka.—Z Małaiyty—krychu pačakaušy dadaje.

— I niačuli peŭnie? — adzywajecca druhaja.

— Da dzie-ž tam... peŭnież nia čuŭ—kažu ŭśmichajučysia (A ŭ Małarycie ja razoŭ z piać byŭ)“

Čamu autar ašukaŭ babu—z apawiadańnia nia widać. Nia wyjaśniaje hetaha i Redakcyja. A škada, bo apawiadańnie zusim ništo. Można-b skazać — miską miodu, kab aŭtar, Padarożny nia kapnuŭ tudy dziohciu. Maje heta być „abrazok z praŭdziwaha życcia. Chto-ż ciapier hetaj praŭdziwaści pawieryć?

I jašče adno. Rąz užo Padarożny ŭ darozie, prypomnim pry akazii našu narodnuju prykazku: manoj świet pierajedzieš, ale nazad nia wierniešsia.

I honorar prapadzie — dabawim ad siabie.

---

U Praskich „Iskrach Skaryny“ №4 niechta, raźbirajučy pracu L. Kuby ab biełaruskaj pieśni, robić miž inšym taki „pierakład“ z českaha: „Materyjał 42 pieśniaŭ, jakija zapisaŭ u Dankawie, prazradźuje stupnicy napiewaŭ adnajstaradaŭniejšych typaŭ aż da najnawiejšych, ale najbolšuju wahu maje toje, što staradaŭnyja pieraważajuć na dziewiać dziesiątych kali za prykmietu staradaŭnaści ŭważać — pobač ahulnaje pawahi i ŭładajučoha ducha — nastupnaje: mały napor (nielha ŭstanawić stupieni); prynależnaść da starych toninaŭ u napiewach bolšaha naporu; prostaść budowy; častuju kwartu inady ŭ napiewach naohuł, a inady — i heta asabliwa — pry kancy.“

Pazawicie ciapier muzykalnaha poliglotą, (znaŭca mowaŭ) abiacajcie jamu załatyja hory, kab jon wytłumačyŭ u čym tut sprawa i jon ničoha nie raskumiakaje. Ni jaki „napor“ dumki nie pamoża, pakul nie pračytaje aryhinału.

Dumajem, što kab pisać krytyčnyja staćci ab muzycy mała być mastakom u ihry na hramafonie.

---

„Biełaruskaja Krynica“, adziny ŭ Zachodniaj Biełarusi niezaležny hramadzka-palityčny orhan“...

Tak pačynajecca pieradawica hetaha orhanu ŭ № 32. 1934 h.

Za wialiki, panie redaktar, nadajecie „Krynicy“ absiach. Jak-by jana nia płyła, nia burliła, ale ŭsio-ż zastaniecca tolki krynicaj, nia mohšaj abwadnić usiu Biełaruś. Praŭda ŭ časie razwodździa i krynica robicca rakoj, ale ciapier, dyk tolki takaja, što spamiž Biełaruskich honiaŭ nia moża abačyć niezaležnaha, prostaha „Nowaha Šlachu“.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі — Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія

Drukarnia W. Znamierowskiego, Wilno